**БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ НА 3042 ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ**
Ў ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ КАМІСІІ ПАДАДЗЕНА 2085 ЗАЯЎ
СТАР. 2

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ
№ 2 (22) 2014.02

**ВІКТАР СЫРЫЦА ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ**
НАКІРАВАЎ СКАРГУ Ў ВЯРХОЎНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ВЫБАРЫ

# СПРАВАЗДАЧА ПА ВЫНІКАХ НАЗІРАННЯ ЗА РЭГІСТРАЦЫЯЙ ІНІЦЫЯТЫЎНЫХ ГРУП ГРАМАДЗЯН І КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ ДЭПУТАТАЎ

Назіранне за выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь дваццаць сёмага склікання ажыццяўляецца актывістаміРПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» і ПЦ «Вясна» ў рамках кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

У назіранні ўдзельнічаюць 29 доўгатэрміновых назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», якія разгрупаваныя па абласных цэнтрах і буйнейшых гарадах Беларусі.

## Агульныя высновы

Назіральнікі працавалі без істотных перашкодаў, аднак працэдуры праверкі подпісаў і іншых дакументаў, пададзеных на рэгістрацыю кандыдатаў, засталіся па-ранейшаму непразрыстымі. 100% назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» не былі дапушчаны непасрэдна да такіх праверак і не мелі магчымасці ўпэўніцца ў поўным і аб'ектыўным ходзе камісій да вывучэння дакументаў. Назіральнікі маглі толькі прысутнічаць на пасяджэннях, падчас якіх агучваліся вынікі праверак і выносіліся рашэнні аб рэгістрацыі. Гэта істотна зніжае давер да работы ВК, дазваляе ставіць пад сумнеў не толькі асобныя рашэнні аб адмове ў рэгістрацыі кандыдатаў, але і тыя рашэнні, якімі кандыдаты былі зарэгістраваны.

ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ

Магчымасці для назірання некалькі палепшаны ўнесенымі ЦВК зменамі ў Палажэнне «Аб парадку накіравання назіральнакоў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў». ЦВК пагадзілася з прапановай праваабаронцаў аб тым, каб палітычныя партыі, іншыя рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні маглі накіроўваць назіральнікаў на пасяджэнні ўсіх выбарчых камісій і на ўчасткі для галасавання.

Паводле дадзеных ЦВК, зарэгістраваны 22338 кандыдатаў, што складае 98,81% ад колькасці вылучаных. Такі ж працэнт рэгістрацыі быў і на папярэдніх выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Аналіз практыкі і статыстычных дадзеных дазваляюць сцвярджаць, што працэдуры праверак прымяняліся ВК селектыўна, перш за ўсё супраць апазіцыйных кандыдатаў.

## Вынікі вылучэння кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў

Усяго кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў вылучаны 22 784 кандыдаты, у тым ліку: грамадзянамі шляхам збору подпісаў – 14 215, што складае 62,4% ад агульнай колькасці вылучаных, працоўнымі калектывамі – 6 876 (30,2%), палітычнымі партыямі – 705 (3,1%). У параўнанні з выбарамі ў мясцовыя Саветы дэпутатаў 2010 г., колькасць вылучаных кандыдатаў скарацілася на 10%. Пры гэтым у параўнанні з мінулымі выбарамі на 27% узрасла колькасць кандыдатаў, вылучаных палітычнымі партыямі. Але іх доля застаецца па-ранейшаму нязначнай. Працоўныя калектывы застаюцца актыўнымі ўдзельнікамі выбарчай кампаніі. Яны вылучылі амаль траціну кандыдатаў у дэпутаты. Такая высокая палітычная актыўнасць ненатуральная для калектываў, згуртаваных па вытворча-эканамічный прыкмеце, асабліва у сучаснай складанай эканамічнай сітуацыі.

Сваіх кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў вылучылі 10 палітычных партый з 15 зарэгістраваных.




Сярод палітычных партый лідарамі па вылучэнні з'яўляюцца Камуністычная партыя Беларусі (277 кандыдатаў ці 34,1% ад агульнайколькасці вылучаных ад палітычных

*Працяг на ст. 3.*

## У Баранавічах з 44 прэтэндэнтаў зарэгістраваны 43 кандыдаты

У чацвер 20 лютага адбылося пасяджэнне Баранавіцкай гарадской тэрытарыяльнай выбарчай камісіі (ВА), якая з 44 прэтэндэнтаў зарэгістравала 43 кандыдатаў у дэпутаты гарсавета. Не быў зарэгістраваны адзін прэтэндэнт – індывідуальны прадпрымальнік Валеры Дрэка. Як паведаміла старшыня выбарчай камісіі Тамара Шукала, у прэтэндэнта на дэпутацкі мандат пры праверцы подпісаў высветлілася, што даты ў падпісных лістах пастаўлены не ўласнаю рукою выбаршчыкаў. Пакуль невядома, ці будзе Валеры Дрэка аспрэчваць рашэнне ТВК аб нерэгістрацыі.

Ад палітычнай партыі левых "Справядлівы свет" зарэгістраваны В. Цяпін (ВА № 11) і Ч. Гузоўскі (ВА № 25), а таксама грамадскі актывіст Р. Грык (ВА № 15).

Большасць зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты гарсавета з'яўляюцца кіраўнікамі дзяржаўных структур і прадстаўнікамі праўладных палітычных партый. У горадзе 36 выбарчых акруг, то на большасці з іх, зразумела, выбары будуць безальтэрнатыўнымі.

Цікава, што на гэтым пасяджэнні прысутнічала большасць прэтэндэнтаў у дэпутаты, і ТВК абмяркоўвала і галасавала асобна па кожнаму прэтэндэнту на дэпутацкае месца. Пасяджэнне ТВК цягнулася каля 45 хвілін.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

весnік PRAVA БАРОНЧЫ
ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ
№ 2 (22) 2014.02


## Баранавічане адмаўляюцца прымаць удзел у выбарах



Жыхары вуліцы Дамашэвічскай і 3-га завулка Дамашэвічскага адмаўляюцца прымаць удзел у выбарах 23 сакавіка. Гэта стала вядома з ліста кандыдата ў дэпутаты гарадскога і абласнога Саветаў Мікалая Чарнавуса, які ён накіраваў у Цэнтральную выбарчую камісію на імя Лідзіі Ярмошынай. Копію ліста грамадскі актывіст накіраваў таксама старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Юрыю Грамакоўскаму.

Мікалай Чарнавус паведамляе, што яшчэ два гады таму вуліцу Дамашэвічскую раскапалі так, што праехаць на машыне стала проста немагчыма. Кіроўцы вымушаны пакідаць машыну ў брудзе і шукаць трактар, каб выцягнуць уласны транспарт з ямаў. Асабліва цяжка прыходзіцца ў вячэрні і начны час, калі знайсці дапамогу практычна немагчыма. А жыхары вуліцы злуюцца, калі пацярпелыя турбуюць іх асабліва ноччу з мэтаю атрымання тэрміновай дапамогі.

У сувязі з тым, што гарадскія ўлады спынілі добраўпарадкаванне вуліцы, паведамляе Мікалай Чарнавус у сваім лісце, жыхары вуліцы Дамашэвічскай і 3-га завулка Дамашэвічскага адмаўляюцца прымаць удзел у выбарах 23 сакавіка.

Мікалай Чарнавус паведаміў таксама, што ён ужо атрымаў электронны адказ з ЦВК за подпісам Мікалая Лазавіка, дзе паведамляецца, што яго заява накіравана для разгляду ў Брэсцкі выканаўчы камітэт.

Праваабаронцы
за свабодныя выбары

ВЫБАРЫ

# НАЗІРАЛЬНІК НЕ МАЕ ПРАВА ЎМЕШВАЦЦА Ў ПРАЦУ ТЭРАТАРЫЯЛЬНАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ

Баранавіцкага назіральніка Сяргея Гоўшу не дапусцілі да праверкі подпісаў

Назіральнік з Баранавічаў Сяргей Гоўша 13 лютага атрымаў ліст за подпісам старшыні Баранавіцкай гарадской выбарчай камісіі Тамары Шукала, у якім паведамляецца: “На Вашу заяву прысутнічаць пры праверцы подпісаў грамадзян у падпісных лістах, жадаючых стаць кандыдатамі ў дэпутаты гарсавета Рыгора Грыка і Віктара Цяпіна паведамляем, што арт. 13 Выбарчага кодэкса РБ, на які Вы абапіраецеся, прысутнасць назіральніка падчас працы с пры праверцы правільнасці подпісаў грамадзян не прадугледжана”. Далей у адказе старшыні ТВК дадаецца, што “У частцы арт. 13 статуса назіральніка пункт 9 запісана, што назіральнік не мае права ўмешваца ў працу камісіі”.



– Я з гэтым згодны, што назіральнік не павінен умешвацца ў працу камісіі. Але арт. 13 Выбарчага кодэксу абвяшчае выбары ў нас адкрытымі і галоснымі, таму я напісаў заяву ў гарадскую выбарчую камісіі і прасіў, каб мне дазволілі толькі прысутнічаць пры праверцы подпісаў Р. Грыка і В. Цяпіна. Але, магчыма, сама прысутнасць незалежных назіральнікаў у Баранавіцкай ТВК “перашкаджае” ў аб’ектыўным і непрадузятым правядзенні выбараў, – паведаміў Сяргей Гоўша.

“Праваабаронцы
за свабодныя выбары”

СУД

# СУД ПЕРАНЕСЕНЫ З-ЗА НЕПАДРЫХТАВАНАСЦІ І НЕКАМПЕТЭНТНАСЦІ ПРАДСТАЎНІКА БАРАНАВІЦКАГА ГАРВЫКАНКАМА

У аўторак25 лютага суддзя суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы Вольга Апановіч праводзіла папярэдняе судовае пасяджэнне, на якім разглядалася скарга Рыгора Грыка на неправамоцныя дзеянні гарадскіх чыноўнікаў, якія не толькі незаконна адмовілі грамадскаму актывісту ў правядзенні пікета, але і несвоечасова паведамілі яму пра гэта. Аднак з-за непадрыхтаванасці і некампетэнтнасці прадстаўніка гарвыканкама Паўла Кыткіна суддзя Вольга Апановіч перанесла судовае пасяджэнне на больш позні тэрмін.

Рыгор Грык патлумачыў суду, што хацеў правесці 26 студзеня пікет пад назваю “Дзеянні ўлады і законы РБ – пад грамадзянскі кантроль”, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да несвоечасовага і недастатковага рэагавання чыноўнікаў на звароты і прапановы людзей. Ён дадаў, што раней адказы гарвыканкама на яго хатні адрас рэгулярна прыходзілі па пошце заказным лістом, што ён хадзіў на паштамт, але там сказалі, што ніякіх лістоў яму з гарвыканкама не было.

Рыгор Грык прасіў суд прызнаць рашэнне намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама ад 15.01.2014 г. аб адмове яму ў правядзенні пікета незаконным. Прадстаўнік Грыка ў судзе праваабаронца Уладзімір Малей даводзіў, што рашэнне намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дзмітрыя Касцюкевіча з’яўляецца непапушчальным абмежаваннем права на свабоду выказвання свайго меркавання і правядзенне мірных сходаў па сэнсу артыкулаў 23, 33 і 35 Канстытуцыі РБ, а таксама арт. 19 і 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Прадстаўнік Баранавіцкага гарвыканкама ў судзе Павел Кыткін так і не змог патлумачыць суддзі Вользе Апановіч прычыны, па якіх чыноўнікі забаранілі Рыгору Грыку правядзенне пікету 26 студзеня ў дазволеным месцы. Такога некваліфікаванага і некампетэнтнага прадстаўніка гарадскіх уладаў ў судзе яшчэ ніколі не было. Павел Кыткін не толькі спазніўся на 50 хвілін на пасяджэнне суда, але нават не папрасіў прабачэння ў прысутных за несваечасовы прыход, праявіўшы непавагу як да суда, так і да людзей.



Суддзя Вольга Апановіч запатрабавала ад прадстаўніка гарвыканкама сур’ёзна падрыхтавацца да наступнага пасяджэння і абвясціла прысутным, што наступнае судовае пасяджэнне па грамадзянскай справе Рыгора Грыка адбудзецца 5 сакавіка.

Праваабаронцы
за свабодныя выбары

*Працяг з ст. 3.*

ВЫБАРЫ

## СПРАВАЗДАЧА ПА ВЫНІКАХ НАЗІРАННЯ ЗА РЭГІСТРАЦЫЯЙ ІНІЦЫЯТЫЎНЫХ ГРУП ГРАМАДЗЯН І КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ ДЭПУТАТАЎ

партый), Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» (119 кандыдатаў ці 14,6%), Аб'яднаная грамадзянская партыя (111 кандыдатаў ці 13,6%).




### Вынікі рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў дэпутатаў

Згодна з Каляндарным планам рэгістрацыя кандыдатаў выбарчымі камісіямі адбылася з 11 па 20 лютага 2014 г. уключна.

Паводле дадзеных ЦВК, зарэгістраваны 22338 кандыдатаў, што складае 98,81% ад колькасці вылучаных. Такі ж працэнт рэгістрацыі быў і на папярэдніх выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Зарэгістраваны 14 931 кандыдат, вылучаны шляхам збору подпісаў, што складае 66,8% ад агульнай колькасці зарэгістраваных, 7727 кандыдатаў, вылучаных працоўнымі калектывамі (34,6%), 675 кандыдатаў, вылучаных палітычнымі партыямі (3%).




Працэнт рэгістрацыі кандыдататаў ад праўладных палітычных партый вышэйшы за адпаведную лічбу апазіцыйных партый. Так, 4 апазіцыйныя партыі вылучалі 315 кандыдатаў, з якіх 238 былі зарэгістраваныя, што складае каля 75% ад агульнай колькасці вылучаных. У той жа час сярэдні працэнт рэгістрацыі кандыдатаў ад праўладных партый склаў 88% ад колькасці вылучаных. Працэнт рэгістрацыі кандыдатаў ад Камуністычнай партыі Беларусі склаў 92%, ад Рэспубліканскай партыі труда і справядлівасці – 94%. ВК зарэгістравалі 100% прэтэндэнтаў ад Беларускай патрыятычнай партыі і Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі.

### Доля зарэгістраваных кандыдытаў




### Доля зарэгістраваных кандыдатаў на прыкладзе некалькіх партый




Праявілася розніца ў падыходах да прадстаўнікоў апазіцыі, якія вылучаліся шляхам збору подпісаў. Агульны працэнт рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты шляхам збору подпісаў – 98%, вылучэнцаў незарэгістраванай партыі БХД гэта 32%, «Руху за свабоду» – 43%.

### Доля зарэгістраваных кандыдатаў ад колькасці вылучаных (шляхам збору подпісаў)







Статыстыка адмоў у рэгістрацыі і адкліканых заяў аб вылучэнні дазваляюць убачыць не толькі ўзровень палітычнага накалу, але і ўзровень выкарыстання тэхнічных працэдур рэгістрацыі (праверка подпісаў, дэкларацый і г.д.) у палітычнай барацьбе.

spring96.org

## Гарвыканкам увёў дадатковыя месцы для агітацыі



На афіцыйным сайце Баранавіцкага гарвыканкама з'явілася новае рашэнне № 255 "Аб унясенні зменаў у рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама ад 31 студзеня 2014 года № 242". Цяпер у распараджэнні кандыдатаў у дэпутаты не толькі маленькая і неўладкаваная пляцоўка старога парку для агітацыі, а яшчэ пяць дадатковых месцаў, сярод якіх малады парк, стадыён "Лакаматыў", сквер памяці воінаў-інтэрналістаў і г.д.

– На папярэдняй выбарчай кампаніі 2010 года ў мясцовыя саветы грамадскія актывісты і незалежныя прэтэндэнты на дэпутацкія мандаты дамагліся ад гарвыканкама выдзялення дадатковых месцаў для агітацыі. У пачатку выбарчай кампаніі 2014 года гарвыканкам зноў пакінуў для агітацыі толькі адну неўладкаваную пляцоўку ў старым парку горада, таму ў сваёй заяве ад 28 студзеня праваабронцы і грамадскія актывісты патрабавалі ад гарадскіх уладаў павялічыць колькасць месцаў для агітацыі. Цяпер кандыдаты ў дэпутаты будуць мець лепшыя інфармацыйныя магчымасці, каб правесці агітацыйную кампанію эфектыўна і больш масава, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Нагадаем, што на рэгістрацыю кандыдатамі ў Баранавіцкі гарадскі Савет падалі дакументы 42 чалавекі. Паколькі ў горадзе 36 акругаў, то на большасці з іх, зразумела, выбары будуць безальтэрнатыўнымі.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

# БАРАНАВІЦКІ РАЙВЫКАНКАМ ЗАСАКРЭЦІЎ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА ПАСЯДЖЭННЕ ПА СТВАРЭННІ УВК

Баранавіцкі райвыканкам засакрэціў інфармацыю пра выбарчы працэс. Да такой высновы прыйшоў праваабаронца Сяргей Гоўша, які імкнуўся 3 лютага атрымаць хоць-якую небудзь інфармацыю пра запланаванае пасяджэнне райвыканкама па стварэнні ўчастковых выбарчых камісій (УВК).

29 і 31 студзеня афіцыйная газета Баранавіцкага райвыканкама "Наш край" не давала аніякай інфармацыі пра магчымае пасяджэнне райвыканкама 3-га лютага па фарміраванні УВК. І на афіцыйным сайце райвыканкама не было аніякай інфармацыі пра пасяджэнне 3 лютага.

Таму праваабаронца Сяргей Гоўша вырашыў звярнуцца да адказных супрацоўнікаў райвыканкама з мэтаю атрымання інфармацыі пра час і месца запланаванага пасяджэння. Грамадскі актывіст размаўляў па тэлефоне з супрацоўнікамі ідэалагічнага аддзела, сакратаркай намесніка старшыні райвыканкама, але ніхто з іх нічога не ведаў пра магчымае пасяджэнне райвыканкама па стварэнні УВК. Усе суразмоўцы раілі праваабаронцу пагаварыць з адказным за выбарчы працэс Сяргеем Слівай, працоўны тэлефон якога ўвесь час не адказваў. Толькі каля 17.00 Сяргей Гоўша датэлефанаваўся да намесніка старшыні райвыканкама Сяргея Слівы, які катэгарычна адмовіўся паведаміць што-небудзь пра магчымае пасяджэнне райвыканкама.

Ужо пасля размовы з намеснікам старшыні райвыканкама Сяргей Гоўша знайшоў на сайце Баранавіцкага райвыканкама інфармацыю, што райвыканкам сваім рашэннем ад 3 лютага № 83 стварыў 34 участковыя выбарчыя камісіі у Баранавіцкім раёне.

– Магчыма, што гэтага пасяджэння і не было. З уласнага вопыту ведаю, што такія пасяджэнні праводзяцца за некалькі хвілін. Таму ўладзе не патрэбныя вочы незалежных назіральнікаў, якія могуць зафіксаваць парушэнне заканадаўства. Відавочна, што Баранавіцкі райвыканкам своечасова не інфармуе выбаршчыкаў, не прадастаўляе інфармацыю незалежным назіральнікам аб ходзе выбарчага працэсу. Лічу, што райвыканкам парушае арт. 65 Канстытуцыі і арт. 13 Выбарчага кодэксу, якія абвяшчаюць, што падрыхтоўка і правядзенне выбараў праводзяцца адкрыта і галосна, – адзначыў Сяргей Гоўша.

З інфармацыі, размешчанай на сайце райвыканкама, бачна, што прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацый і партый у складзе раённых участковых камісій няма ніводнага. Як і на ранейшых выбарах, у склад камісій увайшлі прадстаўнікі БРСМ, Белай Русі, прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплекса, ГА ветэранаў, прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў і шляхам падачы заяў.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

## "Пенсіі +5%, кошты +15%. Хто памяняе працэнты месцамі?"



У Баранавічах на цэнтральным кааператыўным кірмашы быў арганізаваны першы пікет па збору подпісаў за прэтэндэнта ў кандыдаты гарсавета па выбарчай акрузе № 35, сябра Партыі БНФ Мікалая Чарнавуса. Арганізатары пікету вывесілі вялікі чорна-белы плакат: "Пенсіі +5%, кошты +15%. Хто памяняе працэнты месцамі? Не будзь скупым. Падпішыся".

– Асаблівых праблем са зборам подпісаў у мяне пакуль не было. Маразы паменшыліся, на цэнтральным рынку цяпер больш людзей, і неабыякавыя грамадзяне падпісваюцца. Не ведаю толькі, што будзе, калі здам подпісы на праверку ў тэрытарыяльную выбарчую камісію, – адзначыў грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус.

Іншыя ініцыятыўныя групы выбаршчыкаў таксама працягваюць збор подпісаў за прэтэндэнтаў у кандыдаты ў дэпутаты. Адначасова ў працоўных калектывах праходзяць сходы па вылучэнні кандыдатамі ў дэпутаты Баранавіцкага гарадскога Савета прэтэндэнтаў ад дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый горада Баранавічы.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

## У БАРАНАВІЧАХ АГІТАВАЦЬ МОЖНА Ў СТАРЫМ ПАРКУ, ПЛЯЦОЎКА ЯКОГА ТАК І ЗАСТАЛАСЯ НЕЎЛАДКАВАНАЙ

У пятніцу 7 лютага апублікавана рашэнне гарвыканкама № 242 ад 31 студзеня аб вызначэнні месцаў для правядзення агітацыі за кандыдатаў у мясцовыя саветы. Як і ў папярэднюю выбарчую кампанію, такі спіс месцаў вельмі кароценькі і не надта разнастайны. Прэтэндэнты на дэпутацкі мандат маюць права праводзіць агітацыю толькі ў адным месцы – у старым парку горада (пляцоўка з боку вуліцы Царука). Сустракацца з выбаршчыкамі прэтэндэнтам на дэпутацкі мандат дазволена таксама ў памяшканнях ЖЭСаў і ў актавых залах прамысловых прадпрыемстваў пры ўмове ўзгаднення з гарвыканкамам і з дазволу кіраўнікоў гэтых прадпрыемстваў і ўстаноў.

– Падчас выбарчай кампаніі 2010 года ў мясцовыя Саветы грамадскія актывісты і незалежныя прэтэндэнты на дэпутацкія мандаты дамагліся ад гарвыканкама выдзялення для агітацыі яшчэ і тэрыторыі парку імя Сцепанішчава па вуліцы Кірава. Але ў цяперашнім рашэнні гарвыканкама адзіным публічным месцам зноў засталася неўладкаваная пляцоўка ў старым парку горада, дзе нават няма грамадскай прыбіральні, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Праваабаронцы за свабодныя выбары"

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК" Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ